ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 37 (2563)
ПЯТНІЦА
10
верасня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



**ГАДЫ, як вёрсты на жыццёвай дарозе. Семдзесят пяць гадоў – вёрстаў за плячыма Каліны Карпавіча Іванова. Цяжкая ноша. Праз тры вайны прайшоў. праз гады трывог і нястач. Не сагнулі яны плячэй, не ўбавілі любові да роднай зямлі і, галоўнае, адвечнай патрэбы працаваць...**

**У першыя пасляваенныя гады аднаўляў Каліна Карпавіч свой родны калгас. Араў і сеяў, рамантаваў інвентар. Прыйшоў час, пайшоў ветэран на пенсію. Але не сядзіцца ў хаце. Разам з аднавяскоўцамі ўбірае ўраджай, даглядае калгасную жывёлу.**

**Гады, як вёрсты на жыццёвай дарозе. Дарозе вялікай, труднай, прыгожай...**

Фота Я. МЯЦЕЛІЦЫ.

Калгас «Маяк»,
Шаркаўшчынскі раён.

У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

**ТОЕ, ШТО ЗАСТАЕЦЦА Ў ПАМЯЦІ**
*Нататкі лектара.*
Стар. 3—5.

**МІНІСТЭРСТВА ПРЫСЛАЛА АДКАЗ...**
Стар. 4—5.

**ПЯТРО ГЛЕБКА—ПАЭТ, ЧАЛАВЕК, ДРУГ**
*Нарыс Рамана Сабаленкі*
Стар. 6—7.

**УРЫВАК З АПОВЕСЦІ ВІКТАРА КАРАМАЗАВА**
Стар. 8—9.

**СЯРОД КНІГ**
Стар. 10—11.

**А ДНІ БЫЛІ НЯЗДЫМАЧНЫЯ...**
*З кінагрупай па вёсцы.*
Стар. 12—13.

**ПРАДАВЕЦ. ДУМАЕЦЕ—ГЭТА ПРОСТА?**
Стар. 12—13.

**СВЯТКУЕМ РАЗАМ З СЯБРАМІ**
*Урывак з кнігі славацкага афіцэра, верцы балгарскіх паэтаў.*
Стар. 14—15.

Васіль МАРАХОВІЧ

# У ІМЯ БУДУЧЫНІ

**Братнія народы Чэхаславакіі і Савецкага Саюза адзначылі 27-ю гадавіну Славацкага нацыянальнага паўстання. Узброеная барацьба славацкіх патрыётаў супраць фашызму была значным укладам у агульнае змаганне за свабоду Еўропы ад гітлераўскай навалы і вялікай школай інтэрнацыянальнай салідарнасці — побач са славакамі і чэхамі ваявалі прадстаўнікі 27 нацыянальнасцей, у тым ліку і беларусы. Славацкія і беларускія партызаны выкарыстоўвалі ў паўстанні баявы вопыт, набыты ў нашых лясах, у атрадах, якія дзейнічалі на Міншчыне і на Палессі.**

**Мы друкуем урывак з успамінаў былога беларускага партызана, удзельніка Славацкага нацыянальнага паўстання, цяпер падпалкоўніка Чэхаславацкай арміі Васіля Мараховіча ў перакладзе з чэшскай мовы Алеся Мажэйкі.**

У ШЭРАГІ ўдзельнікаў Славацкага паўстання людзі прыходзілі па-рознаму, кожны сваім шляхам. Я ляцеў з Масквы. Але дарога гэтая пачалася, уласна кажучы, яшчэ раней, у Мінску. І пачалася ўрачыста. У адзін з першых летніх дзён у горадзе адбыўся парад, які, бадай, не меў роўных сабе ў гісторыі.

Міма разбураных бомбамі і спаленых дамоў Мінска маршыравалі партызаны ўсіх беларускіх брыгад. Зарослыя, схуднелыя, яны былі апрануты ў савецкія, славацкія і нямецкія мундзіры, якія ператварыліся амаль што ў лахманы. Шмат хто ішоў басанож. А ў руках партызаны неслі найдзіўнейшую калекцыю зброі ўсіх армій, якія тады ваявалі, з дадаткам «экспанатаў», выробленых ляснымі кавалямі. Але народ горача вітаў іх, і яны крочылі горда, паблісківаючы ордэнамі на грудзях, — яны былі пераможцамі.

Многія з нашых не ўдзельнічалі ў тым парадзе — былі паранены альбо забіты якраз у апошнія дні. Савецкая Армія заціснула ў абцугі фашысцкія часці, якія акружалі нас у бярэзінскіх балотах, у тых мясцінах, дзе і Напалеон страціў свае апошнія войскі, уцякаючы з Масквы. Наша барацьба завяршылася перамогай, але каштавала яна многіх жыццяў. Толькі ў брыгадзе «дзядзі Колі» загінула больш як палавіна славакаў з атрада «Камунар». Аднак тады не было часу задумвацца над гэтым. Мы крочылі па Мінску, нібыта вайна ўжо скончылася. Але гэта была толькі ілюзія. Мы жылі ў невялікай вёсачцы далёка за горадам. І ўначы нас будзілі раскацістыя выбухі авіяцыйных бомб, а ўдалечыні на небасхіле ўзвіваліся асвятляльныя ракеты. Вайна лютавала па-ранейшаму.

Мы адпачывалі нядоўга. Камандаванне брыгады складала спіс партызан паводле нацыянальнай прыналежнасці, каб адаслаць нас у вайсковыя часці. Мы рыхтаваліся ўступіць у армію Свабоды. Але мой лёс павярнуўся інакш...

Праз некалькі дзён нас — 22 славацкіх партызан — паслалі ў Маскву на курсы, дзе нас павінны былі падрыхтаваць для працы ў стратэгічнай разведцы. Цяпер мяне часта пытаюць: ці ведалі мы тады, на што ідзём і куды будзем пасланы пасля курсаў. Праўду кажучы, мы нават не цікавіліся гэтым. Мы былі маладыя — усім крыху больш як па дваццаць, а радзіма была далёка, і нам хацелася як мага хутчэй трапіць да сваіх. Нам задалі пытанне:

— Вы хочаце біць фашыстаў у тыле ворага?

І мы, не вагаючыся, не раздумваючы, адказалі:

— Так.

Тым усё было і вырашана, і мы паехалі ў Маскву.

Нашы газікі спыніліся каля адной з ускраінных станцый метро, і праз хвіліну мы апынуліся ў коле не надта добра настроеных да нас масквічоў. Прайшло нямала часу, пакуль мы зразумелі, чым выкліканы злосныя выразы на іх тварах. Людзей увялі ў зман рэшткі нямецкіх мундзіраў на нашых плячах і незнаёмая лёгкая зброя. Савецкі лейтэнант Сувораў, які суправаджаў групу, растлумачыў, хто мы такія, і потым узаемаразуменне наладзілася.

Перш за ўсё нас чакалі руская лазня, цырульнік і новая савецкая форма. А потым — рэстаран. Хто хоць аднойчы сядаў за багаты рускі стол, той ведае, якіх смачных страў можна чакаць. А для нас, хто многія месяцы не мог як след паесці, то была вяршыня асалоды. Мы ўжо ўзняліся па гэтую вяршыню, калі ўвайшоў высокі стройны маёр з крылцамі на пятліцах. Нам прадставілі яго як начальніка нашых курсаў маёра Грыгарэнку.

Новым домам для нас стала двухпавярховая дача ў прадмесці Масквы. Ішла вайна, але за высокім няпраглядным плотам панавала цішыня, якую парушаў толькі пошум ветру ў іголках елак і сосен. Мы хадзілі ў форме і вучыліся, як найлепей і найэканомней узрываць масты, як устанаўліваць міны, як найспрытней пакласці ў матор аўтамашыны магнітны зарад. Часам праводзілі гэтыя небяспечныя гульні на мясцовасці. Вучыліся таксама збіраць звесткі на тэрыторыі непрыяцеля, арганізоўваць сетку сувязных і пранікаць у варожае асяроддзе. Нас вучылі бегу з перашкодамі і скачкам з парашутам. Але ўсё гэта была не вайна, а гульня ў вайну і, па праўдзе кажучы, прыемны адпачынак.

Сярод нас знайшліся добрыя спевакі і гітарысты, і неўзабаве каля плота сталі з'яўляцца слухачкі. З другога паверху мы добра бачылі іх, а яны — нас. І які казарменны плот быў настолькі высокі для нас, каб яго не пераадолець?

Ад дзяўчат мы даведаліся, што побач з намі — цікавы сусед. Мы хутка пачалі заўважаць яго, але ён не звяртаў на нас ніякай увагі. Гэта быў фельдмаршал фон Паўлюс. Ён самотна хадзіў па садзе «свайго» дома са схіленай заўсёды галавой, на кожным кроку абапіраючыся на палачку. Мы назіралі, але нічым не перашкаджалі яму. Думкі яго, відаць, усё яшчэ блукалі вакол Сталінграда...

Аднойчы выдалася цудоўнае сонечнае надвор'е. Дзень быў вольны ад заняткаў, і мы гулялі ў садзе. Я з таварышам сачыў за двума «лавачкінымі», якія імкліва рэзалі воблакі, калі да нас падышоў камандзір курсаў маёр Грыгарэнка. Абвёўшы ўсіх вачамі, ён з хітрынкай усміхнуўся:

— Ну, а вы як?

Мы спыніліся, думаючы-гадаючы, пра што пойдзе гутарка.

— Вы не ведаеце, што ў вас, у Славакіі, пачалося ўсенароднае паўстанне?

Мы вытарашчылі вочы. Праз хвіліну вакол нас сабраўся натоўп, збегліся Сарторыс, Заяц, Дзюрчак, Маташыцкі, Мацко і ўсе астатнія.

— Што здарылася? — пыталіся ўсе.

Больш мы не даведаліся нічога, але рашэнне прынялі адразу: «У Славакію, да паўстанцаў!..»

Маёр весела засмяяўся:

— Гэта я вам магу гарантаваць!..

Скончыліся лекцыі і практычныя заняткі, скончылася спакойнае жыццё. Мы выехалі ў штаб у цэнтры Масквы, дзе нас падзялілі на тры групы, выдалі нам новае абмундзіраванне дэсантнікаў, усю патрэбную амуніцыю і зброю. Калі вярнуліся на сваю дачу, адразу ж была аб'яўлена баявая гатоўнасць. Спаць даводзілася абутымі і апранутымі — кожную хвіліну нас маглі выклікаць.

У ноч на 10 верасня 1944 года аб'явілі трывогу. Мы зноў выехалі ў штаб. Да нашых груп дадалі па некалькі савецкіх салдат, папоўнілі радыстамі, урачамі і камандзірамі. З гэтага часу мы сталі групамі Марозава, Волкава і Пятрова. Першыя дзве групы вылецелі раніцай, а мы яшчэ чакалі. Марудна цягнуліся гадзіны.

13 верасня мы нарэшце вылецелі, але нашым двум «ЛІ-2» не пашанцавала — лінуў страшэнны дождж, а потым паслаўся туман. Вымушаны былі прызямліцца ў Львове, але ад самалётаў не адыходзілі. Ад голаду падцягвала жываты, таму мы пацішку цягалі сухары з мяшкоў, якія везлі з сабой. Надвор'е крыху палепшылася, адзін самалёт падняўся ў паветра, а мы па-ранейшаму чакалі. Камандзір штохвіліны суцяшаў:

— Пацярпіце, хлопцы, ужо хутка...

У пілота настрой, напэўна, сапсаваўся яшчэ тады, калі ён стартаваў з львоўскага аэрадрома. Стаяла светлая месячная ноч, на небасхіле плылі далікатныя белыя хмурынкі. Нам усё гэта падабалася, але вопытны пілот прыходзіў у шаленства. Мы ляцелі над лініяй фронту.

Над Карпатамі ў самалёце раптам стала відно, а затым мы пачулі выбухі — зусім побач. Камандзір, перакрываючы шум матораў, закрычаў: «Трывога!» Мы закінулі кручкі парашутаў на трос, сціснулі пальцамі край лаўкі, на якой сядзелі, і знерухомелі, прыцісну́ўшыся тварамі да акенцаў. Прагучаў загад падрыхтавацца да скачка.

Самалёт кідаўся з боку ў бок, мяняў кірунак палёту, увесь час набіраючы вышыню. Пілот спрабаваў вырвацца з абдымкаў двух пражэктараў, якія для нас былі прадвесцем смерці. Я марна намагаюся ўспомніць, пра што мы думалі ў тыя жудасныя хвіліны. Прыгадваецца толькі, што я некалькі разоў цягнуўся да шнура ад свайго парашута, нібы на ім павісла і маё жыццё.

У нейкі момант мне здалося, што ўсё скончана. Наш «Лі» знянацку кінула ўніз. Заняло дых. Але самалёт хутка выраўняўся, і мы зразумелі, што выратаваны. Пілоту ўдалося выслізнуць з абцугоў пражэктараў, і на брыючым палёце ён выйшаў з зоны абстрэлу...

Толькі ў самалёце мы даведаліся, што ляцім у Цэнтральную Славакію. Хутка распазналі Татры, Спішску Нову Вес, а калі скіраваліся на поўдзень, камандзір аб'явіў гатоўнасць. Самалёт пачаў рабіць кругі.

На зямлі паказалася некалькі агнёў, узляцела ракета. Мы адказалі ўмоўленым светлавым сігналам, і самалёт пайшоў на зніжэнне. Колы шурхнулі па зямлі — мы прызямліліся на аэрадроме «Тры Дубы». Да самалёта падбеглі наш камандзір, маёр Пятроў і астатнія хлопцы, якія вылецелі першым рэйсам. Мы кінуліся ў абдымкі, і на вочы набеглі слёзы. Праз многа год мы вярнуліся на радзіму, і шчасце наша было бязмерным. Нас чакала барацьба не на жыццё, а на смерць, але ў гэтую хвіліну ўсё было цудоўным і лёгка дасягальным.

Наш штаб размясціўся ў Кордзіках і Сеніцы. Неўзабаве мы раскінулі сярод насельніцтва шырокую сетку інфарматараў і сувязных.

Пасля ўступлення фашысцкіх войск у Быстрыцу прыйшлося, вядома, адысці. Перажылі мы і шалёную бамбёжку нямецкіх самалётаў і напады гардзісцкіх штурмавікоў. Але гадавіну Кастрычніка адсвяткавалі на маршы, вяртаючыся на сваю старую стаянку, а з 8 лістапада аж да сярэдзіны сакавіка былі гаспадарамі вялікай вобласці — ад ваколіц вёскі Балажа да прадмесцяў Быстрыцы. Штаб тады размяшчаўся ў некалькіх кіламетрах ад Сеніцы, у Сяльчанскай даліне. Сёння гэта гучыць проста неверагодна, але праз увесь гэты час немцы не адважыліся сунуцца ў Сеніцу далей, чым да школы, а школа стаяла пасярод вёскі... Мы змаглі хутка, не зважаючы на густую сетку кантрольных пастоў ворага, аднавіць сувязі з нашымі старымі супрацоўнікамі. Сувязныя мелі арыгінальныя пасведчанні з нямецкіх устаноў, куды змаглі пранікнуць нашы разведчыкі.

...Шмат чаго было. Пасля падзення Банскай Быстрыцы мы паварочвалі, як кажуць, аглоблі назад тройчы за дзесяць дзён. Не ведаю, пра што думалі нашы савецкія камандзіры і сябры, але сцвярджаю, што ўсе васемнаццаць славакаў, якія былі ў атрадзе маёра Пятрова, успаміналі ў гэтыя хвіліны Беларусь, тыя маёвыя і чэрвеньскія дні, якія аддаліліся на паўгода назад...



Так сустрэліся ў Мінску пасля дваццацігадовай разлукі былыя беларускія партызаны — падпалкоўнік Чэхаславацкай арміі Васіль Мараховіч і дацэнт Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі Барыс Яўціхееў.

Фота Ул. ЛУПЕЙКІ. (БЕЛТА).

У БРАТНІХ РЭСПУБЛІКАХ

# СУСТРЭЧА З КАЗКАЙ

На острове плоском,
где дышат сквозь сон
Лишь травы одни
да каменья,
Как сказка, возникло из древних времен
Красы небывалой виденье.

Ус. Рождественский.

СЕЛЕТА мне пашчасціла пабываць у Карэліі, на Анежскім возеры, сваімі вачыма ўбачыць «восьмы цуд» свету — сусветна вядомы архітэктурны ансамбль на востраве Кіжы: Прэабражэнскі сабор «о двадцати двух главах», пабудаваны ў 1714 годзе ў гонар перамог Расіі над шведамі ў Паўночнай вайне, Пакроўскую царкву, якая на пяцьдзесят гадоў маладзейшая за сабор, узведзеную менш стагоддзя назад званіцу — апошні, заключны акорд казачнага ансамбля, створанага багатай фантазіяй і чароўнымі рукамі продкаў.

...Гэта было даўно, прыкладна ў адзінаццатым стагоддзі. На берагах Анега, так называюць мясцовыя жыхары Анежскае возера, пасяліліся прадпрымальныя наўгародцы. Пачалася гісторыя Абанежжа — краю, старажытная зямля якога памятае духоўную і мірскую ўладу Вялікага Ноўгарада, дзейнасць хрысціянскіх місіянераў, гады гаспадарання на Рускай Поўначы шведаў, палякаў, якія не аднойчы разбуралі «погосты», у тым ліку і Кіжскі. Наўгародскія перасяленцы прынеслі на бераг Анега не толькі высокую культуру земляробства, хрысціянскую веру, свой тып жытла, быліны і рамёствы, але і дух вольнасці, які з даўніх часоў лунаў над волхаўскім плёсам. Землякі гандлёвага госця Садко і Васіля Буслаева спраўна абаранялі традыцыйныя вольнасці Вялікага Ноўгарада. Вось чаму Кіжская званіца не раз абвяшчала навакольныя «погосты» аб пачатку бунтаў. Самым буйным па напале класавай барацьбы было выступленне заанежскіх сялян у другой палове XVIII стагоддзя, вядомае Кіжскае паўстанне.

Аб усім гэтым мы даведаліся ад экскурсавода яшчэ калі «Камета» несла нас па Анежскім возеры. На шырокай роўнядзі яго побач з парусам карбаса, амаль такога ж, як у час Калевалы, красаваліся сучасныя судны. Ды і не дзіўна: Анежскае возера, другое ў Еўропе па плошчы пасля Ладажскага, — важны транспартны вузел, адно са звенняў Беламорска - Балтыйскага воднага шляху і Волга-Балта. Цішыню ўзбярэжных вёсак і шматлікіх астравоў, раскіданых па возеры, часта парушаюць басістыя гудкі магутных цеплаходаў.

А да паслуг турыстаў — судны на падводных крылах. Ад петразаводскай прыстані да Кіжаў — шэсцьдзесят кіламетраў. Судна на падводных крылах пакрывае іх за якую гадзіну.

Нібы зачараваныя, любаваліся мы першазданнай прыгажосцю Анега-возера. Не заўважылі нават, як удалечыні, нібы з-пад вады, паказаліся знаёмыя па здымках сілуэты кіжскіх цэркваў. Па меры таго, як цеплаход набліжаўся да вострава, галоўкі іх раслі, ператвараліся ў купалы. І вось ужо над вострвам да высокага паўночнага неба велічна ўзняўся шматгаловы шацёр помніка. Яшчэ не ступіўшы на кіжскую зямлю, не ўбачыўшы ўсіх дэталяў яго, мы захапляліся ўменнем народных дойлідаў. Аб'язджаючы востраў, бачылі ансамбль па-рознаму, але кожны раз ён прадставаў перад намі ў непаўторным гарманічным абліччы. І гэта нягледзячы на асіметрычнасць архітэктурнага комплексу, розначасовасць яго пабудоў!

Ансамбль на востраве Кіжы — класічны музычны твор, дзе нічога — ні дадаць, ні адняць. Гэта гармонія тут літаральна ва ўсім: і ў шматгаловых контурах дзвюх цэркваў, і ў ледзь прыкметным падабенстве шатровага пакрыцця званіцы з пірамідальным сілуэтам Прэабражэнскага храма. Калі апошні падпарадкоўвае сабе ўвесь архітэктурны ансамбль, то званіца служыць нібы звязваючым архітэктурным элементам ў ансамблі. Яна сурова-спакойная.

Вось ужо сапраўды трэба быць не проста цесляром, а цесляром-паэтам, каб пры розным характары кожнай з трох пабудоў дабіцца такога адзінства, такой гармоніі

